

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — **4,25 м.; ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 д. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 18 (404) — Нядзеля, 4 траўня 1958 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 12

# Партыя заціскае гужы

Адным із вынікаў устанаўленьня аднаасабовай дыктатуры Хрушчова праўдападобна будзе тое, што ў нутраным жыцьці Савецкага Саюзу партыя будзе адклікаць усе тыя ўступкі народам, якія праявіліся ў пэрыяд «калектыўнага кіраўніцтва, ды ў шыбчэйшым або павальнейшым тэмпе вяртацца да суровых сталінскіх мэтадаў. Адным із сымптомаў новае зьмены палітычнага курсу можа служыць чацьверты пленум праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР, які адбыўся 4-га красавіка ў Менску. Пленум быў прысьвечаны прыгатаваньню да 4-га зьезду пісменьнікаў Беларусі, які вызначаны на кастрычнік сёлета, і заданьням беларускае літаратуры да 40-годзьдзя БССР, значыцца, якія маюць кардынальнае палітычнае значэньне. Шырокая справаздача аб пленуме паявілася ў двух падрад нумарох «Літаратуры і Мастацтва» — за 5 і 9 красавіка, зь якой і чэрпаем матарыялы да гэтага артыкулу.

Гэты чацьвёрты пленум шмат у чым розьніўся ад трэйцяга пленуму, які адбыўся год зь лішнім назад — 18 і 19 сакавіка 1957 г. Праўда, абодвы пленумы праходзілі пад аднымі й тымі самымі лёзунгамі: змаганьня з адхіленьнем літаратуры ад сучасных савецкіх праблемаў, з рэвізіянізмам і ўплывамі Захаду, з буржуазным нацыяналізмам ды пад лёзунгам срогай партыйнасьці літаратуры й захоўваньня мэтаду сацыялістычнага рэалізму. Але на 3-ім пленуме ўсё-ж мог выявіцца, — і то шырака — і некаторы крытыцызм у дачыненьні калі не да самога мэтаду сацыялістычнага рэалізму, які ніякай крытыцы не падлягае, дык прынамся да яго недарэчных вынікаў. Таксама шырака занзначылася шуканьне, хоць і вобмацкам робленае, выхаду із сьляпога завулка таго штучнага шаблёну, трафарэтнасьці ды г. зв. «лакіроўшчыны», якія гэты сацыялістычны рэалізм у сваім няўхільным выніку накідае на літаратурную творчасьць. Ня ў меншай меры на 3-ім пленуме раздаваліся галасы за прывярненьне нацыянальнага характару літаратурнай творчасьці ды за пераацэнку літаратурнай спадчыны, як дарэвалюцыйнай, гэтак і пасьлярэвалюцыйнай 20-ых гадоў, якая пры Сталіне была асуджаная за ейны нацыянальны характар і выкінутая зь гісторыі беларускага літаратурнага працэсу.

Затое чацьверты пленум меў ужо поўнасьцю казённы, залганы й срога вытрыманы ў духу партыйных дырэктываў характар. Галоўны дакладчык на пленуме заступнік старшыні Саюзу пісьменьнікаў БССР І. Шамякін не пасароміўся заявіць з трыбуны навет такую хлусьню, што **«Савецкі пісьменьнік карыстаецца поўнай свабодай творчасьці» і «што кажны пісьменьнік можа пісаць аб усім, да чаго ляжыць яго душа».**

Навет у атмасфэры бальшавіцкай залганасьці й хвальшу такое цынічнае цьверджаньне, што «кажны пісьменьнік можа пісаць аб усім, да чаго ляжыць яго душа», гучыць вельмі гумарыстычна. І таму, відаць, Шамякін, каб згладзіць гэтую сваю недарэчнасьць, уважаў за патрэбнае зараз-жа дадаць, што **«партыя, мудра кіруючы ўсім літаратурным працэсам, зьвяртае ўвагу пісьменьніцкіх калектываў у першую чаргу на тое, каб зьявіліся творы, якія ўславілі-б жыцьцё й гэраічныя справы нашых сучасьнікаў — актыўных будаўнікоў камунізму».**

Вось у гэтым і ўся камуністычная дыялектыка: «кажны пісьменьнік можа пісаць аб усім, да чаго ляжыць яго душа», але гэтая пісьменьніцкая душа на практыцы ня можа ляжаць, да чаго яна хоча. Яна, душа пісьменьніцкая, мусіць быць настроеная ў такт партыйных вымаганьняў, і толькі!

Асаблівая ўвага была зьвернутая на пленуме справе змаганьня з рэвізіяністычнымі тэндэнцыямі ў літаратуры й мастацтве. Із слоў І. Шамякіна даведваемся, што, ня гледзячы на войстрае змаганьне з рэвізіяністычнымі тэндэнцыямі, ведзенае ўжо ад даўжэйшага часу, яны ўсё-ж даюць аб сабе знаць. І. Шамякін, навязваючы да 4-га пленуму праўленьня Саюзу пісьменьнікаў БССР, быў змушаны заявіць: **«рэвізіянізм, які так актыўна падтрымліваецца міжнароднай рэакцыяй, ня выжыты да рэшты; ён можа праяўляцца ў рознай форме, часта даволі хітра замаскаванай. Вось чаму трэба заўсёды трымаць ідэялягічны порах сухім, усё цясьней згуртоўваць здаровыя сілы літаратуры, ні на хвіліну не паслабляць пільнасьці да спроб рэвізіяністых замуціць крыштальна-чыстыя крыніцы савецкай літаратуры».**

У гэтым-жа духу гаварыў і другі найбольш баявы прамоўца на пленуме літаратурны крытык Ул. Юрэвіч. Вось некалькі слоў зь ягонага выступленьня: **«Мне хацелася-б з гэтай трыбуны перш за ўсё сказаць пра тую падтрымку, якую аказалі камуністычная партыя і яе Цэнтральны Камітэт у нашай барацьбе з усімі тымі, хто спрабаваў пасьля XX зьезду КПСС распаліць ідэйную бойку, хто спрабаваў нігілістычна адмовіць усё зробленае савецкай літаратурай за сорак год яе існаваньня, хто спрабаваў рэвізаваць палітыку нашай партыі ў пытаньні ідэялёгіі».**

Гаворачы аб заданьнях літаратурнай крытыкі, Юрэвіч паставіў ёй такія вымаганьні: **«Наша крытыка павінна быць заўсёды на баявым узводзе ў адносінах да буржуазнай ідэялёгіі і да тых, хто, лісьліва дагаджаючы ёй, робіць нападкі на партыйнасьць і народнасьць савецкай літаратуры, на яе высокую камуністычную ідэйнасьць. Справядліва падкрэсьлівалася ў дакладзе на гэтым пленуме, што беларуская крытыка не паказала сябе баявой, наступальнай тады, калі гэтыя нападкі былі асабліва жорсткімі. Мы ня маем права заставацца лібэральнымі ў дачыненьні да праціўнікаў сацыялістычнага рэалізму, зь якой-бы падваротні яны не брахалі.»**

Многія выказваньні Шамякіна, а яшчэ больш Юрэвіча, іхны трывожны алярм аб небясьпецы для савецкай літаратуры ды нэрвовыя заклікі «быць заўсёды

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# «Гістарычная» ацэна Вугорскай рэвалюцыі

Будучы ў Вугоршчыне, нядаўна Міkіта Хрушчоў з бацькоўскай пяшчотай зьвярнуўся да вугорскіх дзяцей, ласкава ўсьміхаўся сагнанай на дэманстрацыю публіцы, моцна паціскаў рукі вугорскім камуністым з ураду Кадара ды гаварыў з цынізмам пра савецка-вугорскую «дружбу». Прыехаўшы ў Маскву, ён хвастаўся савецкімі збройнымі сіламі, што спрычыніліся да падаўленьня «вугорскага контррэвалюцыйнага мяцежу» восені 1956 году, пагражаючы зламаць пры дапамозе гэтае сілы ўсякі антысавецкі супраціў, дзе-б толькі ён ня ўзьнік. Пры гэтых пагрозах ён заўсёды зьвяртаўся да «заходніх імпэрыялістаў», якія быццам зьяўляюцца галоўнымі ініцыятарамі ўсякіх антысавецкіх выступаў народаў, і ў прыватнасьці — вугорскага «контррэвалюцыйнага мяцежу».

Вугорская рэвалюцыя восені 1956 году была спрычыненая такім чынам не савецкім імпэрыялізмам, але «агрэсыўнай дзейнасьцяй» заходніх дзяржаваў. Аб гэтым Хрушчоў гаварыў нахабна таксама на вуліцах вугорскіх гарадоў.

Аднак нас цікавіць тут пытаньне, як падыходзіць да вугорскіх здарэньняў савецкая гістарычная навука, якая здольная падводзіць гістарычную аснову пад усе падзеі.

Трэба адзначыць, што савецкія гісторыкі доўгі час ухіляліся ад насьвятленьня й асуджэньня вугорскіх здарэньняў. За гэта яны неаднаразова крытыкаваліся партыяй. У прыватнасьці ім рабілася вымова ў артыкулах «за ленінскую партыйнасьць у гістарычнай навуцы», якія былі зьмешчаныя ў 4 нумары часапісу «Коммунист» і 3 нумары часапісу «Вопросы истории» за 1957 год. У гэтых артыкулах савецкія гісторыкі крытыкаваліся «за няздольнасьць адпаведным чынам рэагаваць з пазыцыяў гістарычнай навукі на актуальныя пытаньні сучаснасьці» ды прызываліся неадкладна заняцца насьвятленьнем гісторыі ідэялягічнай і палітычнай падрыхтоўкі «антынароднага вугорскага мяцежу».

Пасьля гэтага ўжо ў 4 нумары часапісу «Вопросы истории» зьявіўся першы артыкульчык, прысьвечаны «гісторыі барацьбы прагрэсыўных сілаў Вугоршчыны супраць улады харцістаў у 1941-1942 гадах». Ускосна ён кранаўся таксама й вугорскіх здарэньняў 1956 году. Крыху пазьней у 8 нумары гэтага часапісу была зьмешчаная рэцэнзія на «Белую кнігу», што была выдадзеная вугорскім камуністычным урадам з прычыны вугорскай «контррэвалюцыі». У рэцэнзіі ўжо рабіліся некаторыя высновы й заключэньні адносна характару вугорскіх здарэньняў. Аднак зьяўленьня абагульняючага артыкулу, прысьвечанага спэцыяльна разгляду кастрычніцкім выпадкам у Вугоршчыне, трэба было чакаць ажно да канца 1957 году. Напісаны малавядомымі гісторыкамі Ізраэлімым і Нікалаевым, ён быў зьмешчаны ў 12 нумары часапісу «Вопросы истории» пад загалоўкам «Зь гісторыі ідэялягічнай падрыхтоўкі контррэвалюцыйнага мяцежу ў Вугоршчыне восені 1956 году». Гэты артыкул цікавы як сваей набізнай у савецкай гістарыяграфіі, (у дачыненьні вугорскіх здарэньняў), так і сваёй інтэрпрэтацыяй гэтых вугорскіх здарэньняў.

Галоўнай тэзай гэтага артыкулу зьяўляецца выснаў, што вугорская кастрычніцкая рэвалюцыя была паўстаньнем антынародных элемэнтаў. Повадам да ўзьнікненьня гэтага «мяцежу» была ідэялягічная дывэрсія «заходніх імпэрыялістычных дзяржаваў» супраць Вугорскай Народнай Рэспублікі, якая праводзілася галоўна пасярэдніцтвам радыястанцыі «Вольная Эўропа». Апошняя была быццам ў сутнасьці кіраўнічым ворганам і арганізатарам «контррэвалюцыйных» выпадаў вугорскіх «рэакцыянэраў». Адной із прычынаў таго, што гэты «контррэвалюцыйны мяцеж» узьнік пайменна ў Вугоршчыне, зьявіліся тыя абставіны, што ў шэрагах вугорскай камуністычнай партыі здаўна існавала «апартуністычная група», якая марыла пра рэстаўрацыю капіталістычнага ладу ў Вугоршчыне. Гэтай групай была група Надзя-Лашонца.

Так у кароткіх рысах выглядае гісторыя вугорскіх здарэньняў, выкладзеная ў разгляданым артыкуле. У васнаўным яна нічым ня розьніцца ад паасобных насьвятленьняў, якія зьяўляліся ў савецкім друку на працягу 1957 году. Аднак у даным насьвятленьні ідэялягічных вытокаў вугорскіх здарэньняў мы заўважаем цэлы шэраг удакладненьняў, гістарычных асноваў і супярэчных цьверджаньняў, якія заслугоўваюць асобнай увагі.

Першым чынам у артыкуле ўдакладнена канцэпцыя пра існаваньне ў Вугоршчыне нутранай «антынароднай рэакцыі», іншымі словамі — пра існаваньне «апартуністычнай групы» Надзя-Лашонца й пра ейныя ўзаемасувязі з вонкавай дывэрсіяй. Як мы помнім, у савецкім друку доўгі час адмаўлялася

(Заканчэньне на 2-ой бачыне)

# Змаганьне беларускага народу за свабоду

**Ад Рэд.:** Ніжэйзьмешчаны артыкул, адмыслова напісаны д-р Ё. Цекэрам, былым паўнамоцным міністрам Славаччыны ў Гішпаніі й сучаным Віцэпрэзыдэнтам Славацкае Нацыянальнае Рады з нагоды 40 гадавіны абвешчаньня незалежнасьці БНР, быў перададзены Славацкай сэкцыяй Гішпанскага Нацыянальнага Радыя дня 25 сакавіка сёлета.

*

Кажны народ мае права на свабоду й незалежнасьць. Народ бязь дзяржаўнае незалежнасьці — прысуджаны да вэгэтатыўнага палітычнага, эканамічнага й культурнага існаваньня. Народ без сваёй собскай дзяржаўнасьці ня можа выконваць сваю прыродную місію ў прасторы й часе. Ён ня можа прыймаць удзелу ў тварэньні агульных людзкіх вартасьцяў. Ня можа актыўна ды беспасярэдня супрацоўнічаць у гістарычным разьвіцьці чалавецтва.

Таму зусім нармальна, што кажны народ, які народам пачуваецца й які сьвядомы сваёй гістарычнай місіі, хоча мець свае собскія сяродкі, каб яе выконваць. А гэтым-жа сяродкам ёсьць дзяржава. Праз сваю дзяржаву, праз ейныя ворганы, праз ейную форму народ выконвае сваю нацыянальную й міжнародную місію ў гісторыі.

У гэтай, якраз, духовай, маральнай і палітычнай пэрспэктыве мы можам зразумець змаганьне народаў за свабоду, за дзяржаўную незалежнасьць. У гэтай пэрспэктыве мы можам зразумець сутнасьць і сэнс змаганьня, якое вёў і вядзе за сваю дзяржаўную незалежнасьць і народ беларускі.

Беларускі народ увайшоў у гісторыю із сваім собскім духовым скарбам, із сваёй собскай душой, сваім собскім геніем, собскім характарам, собскай мовай ды сваімі палітычнымі, народнымі й міжнароднымі чынамі выкрашаў сваю собскую асабістасьць. Ён знаходзіцца ў прасторы й часе, як сталая вартасьць, якое нельга ня ведаць. Ён — паэтычная, нацыянальная й маральная ды міжнародная асабістасьць, якая мае сваё собскае жыцьцё ды хоча даць гэтаму жыцьцю поўную дасканаласьць. А воля на такое поўнае нацыянальнае й міжнароднае выяўленьне беларускага народу такая жывучая, такая бескампрамісная, такая мэтазгодная, што прабівалася й прабіваецца на ўзвышша эўрапэйскіх і сусьветных палітычных, дыплёматычных і мілітарных рэчаіснасьцяў, ня гледзячы ні на жахлівасьць прыгнечаньня панявольваючай сілы, ні на абыякавасьць, часта кары годную незацікаўленасьць эўрапэйскага ды сусьветнага грамадзтва.

Калі-б жаданьне свабоды ды дзяржаўнасьці ня было найбольш фундамантальнай жыцьцёва-рухаючай сілай кажнага народу, дык і беларускі народ ня прыкладаў-бы ўсіх сваіх сілаў і намаганьняў, каб здабыць дзяржаўную незалежнасьць. Беларускі народ, падобна як многія іншыя народы, перастаў быць паўнапраўным сябрам эўрапэйскай супольнасьці народаў. Ягоная дзяржава перастала быць адзначанай на картах Эўропы. Беларусь, беларускі народ, сталіся адно геаграфічным ды этнічным паняцьцем. Аднак ня гледзячы на гэта, беларускі народ жыў і жыве як асабістасьць маральная й праўная. Гвалт не зьмяніў рэчаіснасьці гэтага народу. Наадварот. Доўгае змаганьне за свабоду й дзяржаўную незалежнасьць пацьвярджае якраз веліч гэтага народу. Народ слабы, народ, які быў-бы прымушаны жыць у такіх геапалітычных, палітычных і міжнародных акалічнасьцях, у якіх на працягу доўгіх дзесяцігодзьдзяў жыў ды яшчэ жыве народ беларускі, магчыма скапітуляваў-бы пад дамінацыяй, магчыма страціў-бы веру ў самога сябе, магчыма зьлажыў-бы рукі ды з фатальнасьцяй прыглядаўся-б, як гіне й як адмірае ягоны жыцьцёвы корань.

Той факт, што сяньня, у 40-ую гадавіну абвешчаньня Беларусі вольнай і незалежнай дзяржавай, беларускі народ жыве, працуе й церпіць, што беларускі народ у сваім поўным абсягу духовым і біялягічным прасякнуты адзінай ідэяй — ідэяй свабоды й незалежнасьці — сьветчыць нам ізноў аб жыватворчай сіле, якая параджаецца гэтай ідэяй, а таксама аб велічы непераможнага гераічнага супраціву ўсялякім атакам, накіраваным супраць нацыянальнай асабістасьці гэтага народу. У суадносінах часу нічога ня значыць, што сяньня беларускі народ не сьвяткуе дня свае незалежнасьці як народ запраўды вольны й незалежны. Сутнасьць гэтага народу не мяняецца абсалютна ад таго, што з глядзішча дзяржаўна-палітычнага ён знаходзіцца ў ярме Крамля.

Панад гэтымі рэчаіснасьцямі палітычнымі, мілітарнымі й дыпляматычнымі знаходзіцца рэчаіснасьць гістарычная, нязьменная й сталая, якая не падпарадкоўваецца гвалту, якую нельга спутаць законамі акупанта, якую нельга зьнішчыць стрэламі катаў, якую нельга прымусіць маўчаць лесам шыбеніцаў ды выкараніць масавымі дэпартацыямі. Гэта — рэчаіснасьць жывой веры гэтага народу ў собскую апрычонасьць, у сваю собскую духовую й маральную сілу ды ў Провід Божы, што ня гледзячы на аргуманты матар'ялістычнага й марксістоўска-ленінскага выясьненьня гістарычных законаў, вызначае місію, жыцьцё ды сьмерць чалавека й дзяржаўнай грамадзкасьці.

А беларускі народ мае вялізарную веру ў сваю місію. Маюць гэтую веру тыя мільёны Беларусаў, што пад бізуном чужынца пацеюць і крывавяцца на плодных нівах свае бацькаўшчыны, і маюць гэтую веру таксама верныя сыны Беларусі, што, раськіданыя па сьвеце, нясуць вэстальскі сьветач несьмяротнасьці беларускага народу, які за свабодай тужыць, за свабоду змагаецца й церпіць. Беларускі народ мае вялізарную волю быць свабодным і незалежным. Вольным і незалежным не паводля крамлёўскіх рэцэптаў. Ня так, як-бы гэта хацелі прадпісаць некаторыя іншыя народы. Ня так, як-бы гэта хацела й магла падыктаваць тая ці іншая міжнародная канфэрэнцыя, тая, або іншая сіла, пасярэдня ці беспасярэдня зацікаўленая ў беларускай прасторы. Беларускі народ хоча быць свабодным і незалежным ня з ласкі або волі чужой, але дзякуючы найбольш нутранай патрэбе й найжывучэйшай собскай волі. Беларускі народ хоча быць свабодным і незалежным так, як свабодныя й незалежныя іншыя народы.

Гвалт і бясправаўе маглі толькі часова ўстрымаць разьвіцьцё гісторыі. Але не змаглі гэтага гістарычнага разьвіцьця стрымаць назаўсёды. Народы йдуць наперад у свабодзе й незалежнасьці. Але таксама йдуць наперад і ў няволі і ў палітычнай залежнасьці.

Таксама і ў найцяжэйшых, найменш спрыяльных абставінах, народ, які ня зрокся свае місіі ў гісторыі, ідзе наперад, бо ягонае змаганьне, цярпеньне, воля, ягоны супраціў гвалту вядуць ягоныя прыродныя сілы, ягоны характар і душу да большай дасканаласьці. Беларускі народ заманіфэставаў вышыню свае велічы, калі быў вольным і незалежным. Але ня менш даказвае яе штодзённа на працягу гадоў свайго палітычнага й нацыянальнага паняволеньня.

У дзень гадавіны абвешчаньня вольнай і незалежнай Беларускай Рэспублікі й мы, Славакі, вітаем гэты братні народ, якога вартасьці так духовыя як і народныя гэтак цэнім, і якога гераічнае змаганьне падзіўляем. І гэтаксама як жадаем самі сабе свабоды й незалежнасьці, жадаем гэтай свабоды й незалежнасьці й Беларускаму Народу.

**Д-р Ёзеф Цекэр**

# Зь беларускага жыцьця

### ТАНЦАВАЛЬНАЯ ГРУПА ЗБМА Ў НЬЮ-ЁРКУ

12 красавіка танцавальная група Згуртаваньня Беларускае Моладзі ў Нью-Ёрку выступіла ў папулярнай тэлевізійнай праграме «Вечар полькі» з народным скокам «Крыжачком». Вялікі лік глядачоў гэтае праграмы складаецца із старое беларускае эміграцыі. Кіраўнік ньюёркаўскага аддзелу ЗБМА сб. Міхась Казьлякоўскі, гутарачы пабеларуску, пажадаў усім вясёлых Вялікодных сьвятаў ды запрасіў усіх слухаць беларускія штонядзельныя радыёвыя перадачы ў Нью-Ёрку. Цікавая тэлевізійная праграма была скончаная ўрыўкам народнага скоку «Мікіта».

Беларускія скокі й мова праз тэлевізію былі мілай неспадзеўкай для нашых суродзічаў у Амэрыцы.

☆

Штомесяца ў Бруклінскім Музэі Мастацтва (Нью-Ёрк) ладзяцца паказы народнага мастацтва, арганізоўваныя Школьным Камітэтам Бацькоў пры ўдзеле нацыянальных групаў зь міжнацыянальнае Рады Народных Мастацтваў.

19 кастрычніка сёлета мармуровыя сьцены клясычнае аўдыторыі Музэю чулі й вясёлы рытм беларускіх скокаў.

У праграму ўваходзілі сьпеў і скокі Грэкаў, Украінцаў, Валійцаў і Беларусаў, якіх годна рэпрэзэнтаваў танцавальны гурток нью-ёркаўскага аддзелу ЗБМ пад кіраўніцтвам сяброўкі А. Орсы. Пад акардыён Л. Рудзінскага былі выкананы «Лявоніха», «Мікіта» й «Крыжачок».

**В. С.**

### ЧЫРВОНАЕ ЯЕЧКА

У нядзелю 20 красавіка, у Беларускім Народным Доме ў Нью-Ёрку, стараньнем жаночае сэкцыі БАЗА (старшыня сп-ня М. Станкевічыха) было наладжанае для беларускіх дзетак вялікоднае «чырвонае яечка». У праграме «яечка» была паказаная прыгожая сцэнка зь лялькавага тэатру «Прыгоды Аленкі ў зямлі цудаў», падрыхтаваная сп-няй М. Станкевічыхай пры ўдзеле сп-наў Арсеньневай, Бартулікі й Пазьнячыкі ды сяброў Ю. і В. Станкевічаў. Пасьля спэктаклю адбылася супольная пачостка.

**З.**

### У КЛІЎЛЕНДЗКІХ СПАРТОЎЦАЎ

Хоць яшчэ спартовы сэзон і не зачаўся, але нашы спартоўцы ўжо пачалі займацца. Раз на тыдзень маюць трэнінгі ў залі. Адбыўся агульны сход спартоўцаў, а пасьля — паседжаньне кіраўніцтва, дзе абмяркавалася дзейнасьць на будучыню. На зборцы выбралі кіраўніком валейбольнай дружыны сябру М. Міраеўскага. Дружына мае распачаць змаганьні.

Шахматны гурток разыграе турнір з узнагародамі за тры месцы.

30 травеня футбольная дружына «Пагоня» едзе ў Чыкага, дзе разыграе сяброўскі мэч з украінскай дружынай.

«Пагоня» ўжо разыграла тры мэчы: зь Немцамі выграла 3:1, зь Італьянцамі зрэмісавала 1:1, з Вугорцамі зь Янкстаўн выграла 4:2. Апошнія — чэмпіёны штату Огаё.

**(Бюлетэнь ЗБМ)**

### ПРЫХОД БАПЦ У МЭЛЬБУРНЕ

Вербная нядзеля ў гэтым годзе была ня звычайнай Вербніцай для праваслаўных Беларусаў. У гэты дзень адбыўся 2-г. сход дзеля адкрыцьця прыходу БАПЦ.

Склікаў яго й вёў высокапаважаны а. архім. Мадэст, які коратка паінфармаваў аб значэньні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы для Беларусаў ды заклікаў усіх вернікаў згуртавацца пры БАПЦ.

На закіды старшыні Мэльбурнскага аддзелу Аб'еднаньня Беларусаў у Аўстраліі ды яшчэ аднаго із сяброў Аб'еднаньня, што быццам БАПЦ ня ёсьць кананічнай, а. Мадэст прывёў рад аргумэнтаў, даводзячы прысутным беспадстаўнасьць падобных закідаў.

Сход пастанавіў адкрыць прыход БАПЦ у Мэльбурне, а. архімандрыт Мадэст даў згоду ачоліць яго. Такім чынам, сёлетняя Вербніца задаволіла колькі-гадовыя мары беларускіх праваслаўных вернікаў у Мэльбурне.

У Вялікую Сыботу, выбраная на ўспомненым сходзе парахвіяльная Управа мела сваё першае паседжаньне, на якім былі падзеленыя функцыі й прыняятыя пастановы, што нармуюць пачаткі жыцьця прыходу.

Энтузіязм вернікаў з прычыны адкрыцьця прыходу БАПЦ — надзвычайны. Усе выразілі гатовасьць матар'яльнай дапамогі, а шматлікія задэкляравалі сыстэматычную тыднёвую складку на патрэбы прыходу. Сям'я сп-тва Борстак, ведамая з ахвярнасьці для беларускае справы, задэклеравала ня толькі тыднёвую складку, але бясплатнае памешканьне для а. архім. Мадэста.

Дапамажы Божа людзям добрае волі ў сьвятой справе.

**М. С.**

### СЬВЯТА ХРЫСТОВАГА УВАСКРОШАНЬНЯ Ў ТАРОНТА (КАНАДА)

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква імя Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Таронта была месцам шматлікіх Вялікодных Службаў Божых, якія адслужыў а. Міхаіл, пры ўдзеле царкоўнага хору пад кіраўніцтвам сп. П. Слаўка, а таксама пры заўсёдным удзеле вялікай колькасьці вернікаў. У пэрыяд ад 4 красавіка да 1-га дня Вялікадня а. Міхаіл адслужыў 8 Багаслужэньняў.

У Вялікую Суботу, а гадз. 11.30 уначы пачалася Ўсяночная Вялікодная Служба Божая пры масавым удзеле вернікаў БАПЦ як мясцовых, так і многіх суседніх гарадоў правінцыі. Хор запраўды прыгожа сьпяваў зь вялікім уменьнем у гэтую ноч Сьвята над Сьвятамі — Уваскрошаньня Хрыстовага. І калі мінула поўнач, а. Міхаіл першым, пасьля шматлікіх «Хрыстос Уваскрос!» — «Запраўды Уваскрос!», пахрыстосаваўся із сп. сп. П. Слаўко, М. Ганько і інш. Сэрца кажнага напоўнілася радасьцяй і вясёласьцяй, бо Хрыстос Уваскрос із мёртвых, сьмерцяй сьмерць паканаў, і тым, што ў грабох жыцьцё дараваў! І мы уваскрэсьнем, уваскрэсьне й Беларусь! І ўсе ў часе перапынку, дадзенага Айцом, хрыстосаваліся міжсобку па прыкладу а. Міхаіла, і як гэта рабілі нашыя дзяды й прадзеды раней.

Сьвятое Эвангельле чыталася Айцом у час Вялікоднай Службы ў беларускай мове, таксама было зачытана Вялікоднае Архіпастырскае Пасланьне Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ на Чужыне. Было паддзена да агульнага ведама, што сп. В. Лабузаў намаляваў прыгожы вялікі абраз Ісуса Хрыста для царквы, а сп. сп. Б-н Я. і Баслык Ф. падаравалі іконкі на Царскія Вароты. Пасьля асьвячэньня пасак, пачалося традыцыйнае разгаўленьне, што было наладжана Парафіяльнай Управаю. Над падрыхтоўкай яго асабліва папрацавалі сп-ня Н. Слаўко й сп. Ф. Баслык. Пад сьпевы Вялікодных песьняў весела прайшоў незаўважна час да позьняе раніцы, славячы Таго. Хто з грабу ўстаў.

Хрыстос Уваскрос! Уваскрэсьне Беларусь!

**Таронтавец**

### ВЫБАР СУПОЛЬНАГА МУЖА ДАВЕРУ (ТРАСТЫ)

На супольным паседжаньні Ўправы Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага й Галоўнае Ўправы ЗБК у аўторак, 8-га красавіка сёлета, якім кіраваў, з гэтаю мэтаю усімі абраны, сп. мгр. А. Грыцук і сакратарыў мгр. М. Арцюх, быў выбраны супольны (сёмы) Муж Даверу, згодна супольна выробленага праекту ўмовы абодвых зацікаўленых бакоў, з мэтаю прысьпешанага падшуканьня й куплі адпаведнага будынку пад Царкву й галю ў Таронта шчэ ў гэтым годзе.

Супольным Мужам Даверу быў аднагалосна абраны сп. мгр. А. Грыцук.

**(А. М.)**

### ПРЫГОЖЫ ЎЧЫНАК

Вельмі прыемную неспадзеўку нашай Царкве зрабілі дзеткі Спадарства Рагуляў. Яны, замест купляць сабе розныя цацкі за грошы, якія дастаюць ад бацькоў, пастанавілі ўстрымацца ад гэтае, для дзяцей так вялікае прыемнасьці, і грошы свае складаюць у дзіцячую ашчадную скрыначку, каб пасьля перадаць іх Парафіяльнай Радзе на будову новае царквы. Калі ўжо «скрыначка» была поўная мядзякамі, Рагнеда і Вітаўт прыехалі з бацькамі да Таронта й перадалі свой «скарб» Парафіяльнай Радзе парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага. Пры адчыненьні «скрыначкі» аказалася там 17 дал. і 50 ц.

Як-жа паўчальным ёсьць гэты ўчынак Рагнеды і Вітаўта навет для дарослых. Парафіяльная Рада складае тут ім вялікаю падзяку. Няхай Бог дасьць ім здароўя й розум у навуцы ды няхай шчасьліва дарастаюць на хвалу нашай Бацькаўшчыне.

**а. Міх.**

# II Зьезд Беларускага Грамадзка-культурнага Таварыства ў Польшчы

30 сакавіка сёлета ў Беластоку адбыўся II Зьезд Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Польшчы.

Працу Зьезду адкрыў дасюлешні старшыня Галоўнага Праўленьня БГ-КТ Аляксандар Давідзюк, а на старшыню Зьезду быў выбраны Юрка Туронак, старшыня Варшаўскага аддзелу БГ-КТ.

На Зьезьдзе, між іншым, апрача польскіх урадавых і партыйных прадстаўнікоў, быў таксама й прадстаўнік пасольства СССР у Польшчы.

Прысутныя прадстаўнікі украінскай, летувіскай і расейскай нацыянальных мяншыняў ад імя сваіх суродзічаў выступілі з прывітаньнямі, у якіх выказалі жаданьне й патрэбу наладжаньня цясьнейшага супрацоўніцтва між паасобнымі таварыствамі нацыянальных мяншыняў у Польшчы.

Абшырную справаздачу аб дасюлешняй дзейнасьці Таварыства даў А. Давідзюк. Пасьля гэтае справаздачы вывязалася ажыўленая дыскусія. З прычыны, аднак, абмежаваньня ў часе, змагло выступіць толькі 20 дэлэгатаў.

У дыскусіі найбольш увагі было зьвернута на патрэбу належнае арганізацыі беларускага школьніцтва ў Польшчы. Выказваліся дамаганьні зарганізаваньня большай колькасьці сярэдніх беларускіх школаў, бо дасюлешнія 2 беларускія ліцэі ў Бельску й Гайнаўцы ня ў стане забясьпечыць месцамі ўсіх беларускіх дзяцей, якія заканчваюць пачатковыя школы.

У дыскусіі была падчыркнута таксама неабходнасьць зарганізаваньня й беларускіх прафэсіянальных школаў, якія-б рыхтавалі кадры беларускіх спэцыялістых, так патрэбных для ліквідаваньня гаспадарчае адсталасьці на беларускіх вёсках Беласточчыны.

Ува ўсіх гэтых пытаньнях зьвязаных з асьветай асабліва актыўна выступалі беларускія настаўнікі.

Шмат увагі было зьвернута й на эканамічныя справы. Дыскутанты выказвалі неабходнасьць арганізаваць пры Галоўным Праўленьні БГ-КТ эканамічную камісію, яка-б у далейшай працы Таварыства занялася справамі гаспадарчага разьвіцьця беларускай вёскі.

Пасьля дыскусіі Зьезд зацьвердзіў паправкі ў статут БГ-КТ, прыняў ідэйна-праграмную дэклярацыю, пасьля чаго адбыліся выбары сяброў Галоўнага Праўленьня БГ-КТ. Агулам у Галоўнае Праўленьне ўвайшло 45 асобаў. У Прэзыдыюм-жа Галоўнага Праўленьня былі выбраныя наступныя: Уладзімер Станкевіч — старшыня, Александар Давідзюк — заступнік старшыні, Піліп Кізевіч — заступнік старшыні, Віктар Швед — сакратар; сябры прэзыдыюму — Георг Валкавыцкі, Васіль Літвінчык, Кастусь Майсеня, Мікола Тарасевіч і Юры Туронак.

На заканчэньне Зьезду адбылася багатая мастацкая частка. Тут выступалі: Беларускі хор ГП БГ-КТ пад кіраўніцтвам Галены Зюлкоўскай, танцавальны калектыў пад кіраўніцтвам Тацяны Гіжэўскай, Гарадоцкі драматычны гурток пад кіраўніцтвам Алеся Дзерманскага, Гарадоцкае трыё пад кіраўніцтвам Ніны Мушынскай і трыё Варшаўскіх студэнтаў.

**(Паводлля «Нівы» з 6 красавіка 1958 г.)**

# Хто складаў Літоўскі Статут?

Важнай падзеяй у культурным жыцьці Беларусі першай паловы 16-га стагодзьдзя была кадыфікацыя права, завершаная выданьнем у 1529 годзе Першага Статуту Вялікага Княства Літоўскага. У Статуце былі пададзены асноўныя нормы дзяржаўнага, працэсуальнага, крымінальнага, грамадзянскага й сямейнага права.

Шмат якія дасьледнікі гэтага важнейшага помніка права выказвалі розныя меркаваньні аб складальніках Статуту. Аднак да гэтага часу ня высьветлена, хто выканаў такую складаную ў тых умовах работу, і ня проста выканаў, а зрабіў яе так, што на працягу некалькіх стагодзьдзяў яна была ўзорам кадыфікацыі для многіх народаў.

Ведамы расейскі дасьледнік гісторыі права Вялікага Княства Літоўскага прафэсар І. Даніловіч пісаў, што для складаньня Статуту, відаць, была створана «камісія з вучоных, духоўных і сьвецкіх заканазнаўцаў, імёны якіх цяпер нам невядомыя».

Хоць прайшло ўжо больш за сто год з часу апублікаваньня працаў Даніловіча, але й сяньня няма зьвестак аб тым, хто прыймаў удзел у складаньні Статуту.

Некаторыя польскія гісторыкі права сьцьвярджалі, што Першы Літоўскі Статут зьмяшчае ў сабе, у васноўным, нормы польскага права, і таму яго можна разглядаць як помнік польскага права.

Сьцьверджаньні гэтых гісторыкаў не абгрунтаваны фактамі. Вядома, што ў Польшчы ў той час ня было кодэксу падобнага да Літоўскага Статуту, а значыць і ня было з чаго сьпісваць. У статуце ёсьць рад нормаў, аб якіх можна гаварыць, што яны запазычаны з расейскага, польскага ці навет рымскага й нямецкага права. У Статуце, які зьяўляецца клясычным кодэксам фэадальнага права, ёсьць нормы, характэрныя для фэадальнага заканадаўства іншых краін. Гэта тлумачыцца не запазычваньнем, а тым, што аднолькавыя ўмовы матэрыяльнага жыцьця грамадзтва адлюстраваліся ў падобных юрыдычных нормах.

Вывучэньне зьместу Статуту й іншых помнікаў права Вялікага Княства Літоўскага пераконвае, што асноўнымі крыніцамі права пры складаньні Статуту былі звычаёвае права Беларусі й Літвы ды нормы пісанага права, якія дзейнічалі й былі выдадзеныя ў той час.

Неабходна адзначыць, што наагул усе заканадаўчыя помнікі княства прасякнуты імкненьнем захаваць старыя звычаі й старыя нормы права. Таму ў шмат якіх прывілеях вялікія князі абяцаюць: «Старины не рухать, а новины не вводить». Пры такім імкненьні да захаваньня старых звычаяў і старых нормаў пісанага права асноўнай крыніцай Статуту маглі быць звычаі й раней выдадзеныя прававыя акты (прывілеі, граматы, дагаворы й г. д.).

У гэтай сувязі й складальнікамі Статуту маглі быць толькі асобы, якія ведалі мясцовыя звычаі й мясцовае права й мелі шырокія веды ў галіне тэорыі права. Аналіза зьместу Статуту дазваляе сьцьвярджаць, што ў ім умела спалучаюцца старыя звычаі Беларусі й Літвы з навейшымі дасягненьнямі юрыдычнай навукі таго часу, а ў паасобных выпадках у Статуце былі выказаны ідэі, якія значна пазьней атрымалі далейшае разьвіцьцё ў краінах Заходняй Эўропы. Гэта сьветчыць, што Статут складалі самыя адукаваныя людзі таго часу.

З асобаў, якія адпавядалі-б вылічаным прыкметам і жылі ў той час у Вільні можна назваць толькі аднаго чалавека. Гэта — Франьцішак Скарына. Вядома, што праца над складаньнем Статуту пачалася ў 1522 годзе й працягвалася зь перапынкамі да 1529 году.

У гэтай сувязі важна мець на ўвазе, што менавіта ў пэрыяд падрыхтоўкі да складаньня Статуту Скарына пасьля выданьня ім у 1517—1519 гадох раду кніг, у прадмовах да якіх значнае месца было адведзена прававым пытаньням, пераяжджае ў Вільню. Пераезд яго, відаць, быў папярэдня падрыхтаваны ўплывовымі грамадзянамі Вільні, мяркуючы па тым, што ён заснаваў сваю друкарню ў «дому почтивого мужа Якуба Бабича, найстаршего бурмистра славного и великого места Виленского».

У Вільні Скарына запрашаецца на пасаду сакратара аднаго із самых уплывовых людзей у Вялікім Княстве Літоўскім — віленскага япіскапа. Вядома таксама, што Скарына быў асабіста знаёмы з канцлерам Вялікага Княства Янам Гастольдам, які, па меркаваньню некаторых гісторыкаў, кіраваў работай над складаньнем Статуту.

Гэтыя сувязі, здавалася-б павінны былі стварыць Скарыну добрыя ўмовы для выдаваньня кнігаў. А між тым Скарына выдаў у Вільні ўсяго толькі дзьве кнігі: «Апостала» й «Малую падарожную книжицу», у той час як у Празе за тры гады ён выдаў 23 кнігі. Нам думаецца, што гэтую акалічнасьць можна вытлумачыць тым, што Скарына ў гэты пэрыяд быў заняты іншай вельмі важнай працай, якая займала ўвесь ягоны час. Такой працай магла быць ягоная дзейнасьць пры падрыхтоўцы Статуту. Менавіта пэрыяд жыцьця Скарыны з 1522 да 1529 году характарызуецца мізэрнай выдавецкай дзейнасьцяй і бязвыезным пражываньнем у Вільні. Пасьля-ж 1529 году, г. зн. пасьля зацьверджаньня Статуту, дзейнасьць Скарыны робіцца больш шырокай. Ён зьяўляецца то пры дворы гэрцага Прускага, то зноў у Празе.

Неабходна адзначыць, што яшчэ ў пачатку мінулага стагодзьдзя вядомы польскі вучоны Ліндэ зьвярнуў увагу на тое, што прыведзеныя на першай бачынцы III Статуту вытрымкі зь Бібліі узяты з кніг, выдадзеных Скарынай. Гэта сьветчыць аб тым, што ў пэрыяд выданьня II Статуту яго складальнікі ведалі пра Скарыну, як пра аднаго із складальнікаў I Статуту. Вядома, на аснове толькі гэтых дадзеных нельга яшчэ сказаць, што Скарына прыймаў удзел у складаньні I Статуту.

Дарэчы будзе параўнаць асобныя палажэньні, выказаныя Скарыной у ягоных кнігах, із зьместам некаторых артыкулаў I Статуту. Скарыну не без падставы можна назваць заснавальнікам тэорыі натуральнага права ў Беларусі, якую пазьней разьвіў выдатны вучоны, рэдактар і выдавец III Статуту Леў Сапега. Зачаткі тэорыі натуральнага права, выказаныя ў працах Скарыны, знайшлі сваё месца ў I Статуце.

Скарына пісаў: «То чините иным и всем, что самому любо есть от иных всех, и того не чините иным, чего сам не хощети от иных имети». Гэта правіла выказана ў артыкуле I разьдзелу I, у якім вызначаецца кара за ілжывае абвінавачваньне.

У кнізе «Второго закону Моисеева» Скарына пісаў: «Только в том хотятся згожати абы были права их или закон почтивый, справедливый, можный, потребный, пожиточный, подле прирожения, подлуг обычаев земли, часу и месту пригожый, и явный не имея в собе закрытости и не к пожитку единого человека, но к посполитому доброму написанный».

У Статуце бальшыня артыкулаў пададзена «подлуг обычаев земли, часу и месту». У іх устаноўлена правіла, што ўва ўсіх выпадках закон, а таксама й суд павінны быць публічнымі, што закон устаноўлены не для карысьці аднаго чалавека, а на карысьць усіх.

Можна прывесьці шмат палажэньняў, выказаных Скарыной, якія падобныя да палажэньняў, запісаных у Статуце. Мова й літаратурны стыль працаў Скарыны таксама шмат у чым падобныя да мовы й стылю Статуту. Калі ўлічыць, што ў 20-ых гадох 16-га стагодзьдзя высокаадукаваных людзей, якія жылі й працавалі ў Вільні, былі адзінкі, — можна меркаваць, што праца над складаньнем Статуту праходзіла не бяз удзелу Скарыны.

**І. Юхо**

(«Беларусь», № 3, 1958 г.)

# Адказы Рэдакцыі

**М. Волацічу, у Чыкага, ЗША:** Вашага артыкулу «Польская спроба захопніцтва Беларусі ў пару тварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі», нажаль, нельга выдаць асобнай адбіткай, бо ягоны друкарскі склад, адразу-ж пасьля надрукаваньня дадзенага нумару газэты, быў раськінуты. Але калі-б і ня быў раськінуты, дык з прычыны матарыяльных цяжкасьцяў Выдавецтва ўспомненага артыкулу выдаць асобнай адбіткай ня было-б магчымасьці.

Што датычыцца мовы «Бацькаўшчыны», дык, пэўне-ж, яна далёкая ад ідэяльнай. Прычынай гэтага зьяўляецца тое, што рэдактары газэты абцяжараныя іншай, як заработнай, гэтак і ганаровай грамадзкай, працай, і таму ня могуць прысьвечваць газэце столькі ўвагі, колькі належылася-б. Аднак прыведзеныя Вамі прыклады «калечаньня» й «ганьбеньня» мовы (у вабароне, у вадбудове, зялезны, ува ўмовах) зьяўляюцца якраз цьвёрдымі нормамі, прынятымі нашай газэтай, як чыста беларускія моўныя зьявы.







**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**